


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 16 (332) ЛІСТАПАД 2022 ГОДА

**БЕЛАРУСКІЯ ПАВУЧАННІ**

**Не хваліся як пачынаеш, не тойся, як зробіш**

ЭКАЛОГІЯ

## ВЫВЕЗЕНЫ НЕПРЫДАТНЫЯ ПЕСТЫЦЫДЫ

**У Гарадоцкім раёне завершана праца па вывазе непрыдатных пестыцыдаў, якая фінансуецца Глабальным экалагічным фондам.**




7 лістапада завершана работа па вывазе непрыдатных пестыцыдаў з тэрыторыі Гарадоцкага раёна. Пачынаючы з 2021 года польскай кампаніяй Geocoma у рамках праекта міжнароднай тэхнічнай дапамогі «Устойлівае кіраванне ўстойлівымі арганічнымі забруджвальнікамі і хімічнымі рэчывамі ў Рэспубліцы Беларусь, ГЭФ-6», які рэалізуецца Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь, была праведзена пераўпакоўка захоўваемых непрыдатных пестыцыдаў для наступнага трансгранічнага перамяшчэння і знішчэння на спецыялізаваных аб'ектах у Нямеччыне. Дзякуючы рэалізацыі праекта з тэрыторыі раёна вывезена 48,7 тоны, небяспечных адходаў.

Праект рэалізуецца Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь сумесна з ПРААН у Беларусі. Фінансуецца Глабальным экалагічным фондам.

У 17 раёнах вобласці, як спадчына мінулых дзесяцігоддзяў, назапасілася больш за 500 тон непрыдатных або забароненых да прымянення пестыцыдаў, у тым ліку якія адносяцца да стойкіх арганічных забруджвальнікаў (пераважна ДДТ і ГХЦГ). Частка непрыдатных пестыцыдаў утварылася ў сельскагаспадарчых прадпрыемствах з-за заканчэння тэрміну прыдатнасці аграхімікатаў.

У бягучым годзе кампаніяй Geocoma праведзены работы па пераўпакоўцы непрыдатных пестыцыдаў. Пачаты іх вываз у нямецкі Гамбург на спецыялізаванае прадпрыемства па экалагічна бяспечным знішчэнні небяспечных адходаў AVG GmbH. Пагрузка ажыццяўляецца сіламі МНС.

14 кастрычніка 2021 года адбылася адпраўка партыі непрыдатных пестыцыдаў у Германію са склада ААТ «Шаркаўшчынскі агратэхсэрвіс» (г.п. Шаркаўшчына) з удзелам намесніка Міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь А.М. Корбута, каардынатара праектаў ПРААН у Беларусі І.І. Чульбы, кіраўніка праекту Д.А. Каваленкі.

**Л. Антонаў**

ЛІКВІДАЦЫЯ

## ШТО З РАЙСПАЖЫЎТАВАРЫСТВАМ?

**За 2020-2022 гады ў Віцебскай вобласці ліквідаваныя 8 раённых спажывецкіх таварыстваў, а ў яшчэ аднаго заканчваецца працэс ліквідацыі.**

У склад Віцебскага абласнога спажывецкага таварыства на сёння ўваходзіць усяго 7 дзеючых філіялаў (райпо). Такім чынам, за два апошнія гады ліквідавана больш за палову райспажыўтаварыстваў вобласці.

У 2020 годзе былі ліквідаваныя Лёзненскае і Полацкае райспажыўтаварыствы, у 2021-м — Аршанскае, Браслаўскае і Шумілінскае, а ў 2022-м — Глыбоцкае, Талачынскае і Мёрскае.

Цяпер наша Гарадоцкае райспажыўтаварыства праходзіць працэс ліквідацыі. Асноўныя яго аб'екты прададзены летам з аукцыёнаў: універмаг, рынак, кулінарыя і рэстаран, кафэ «Гаражанка», будынак райспажыўтаварыства (там аднавіла працу крама "Красная цена") і г.д...

Суседняе Віцебскае РСТ пакуль што трымаецца. Але адсутнасць эканамічных дадзеных па прыбытках і выдатках не дазваляюць зрабіць прагноз на выжываемасць у бліжэйшыя гады.

Вялізны будынак абласнога спажыўтаварыства ў Віцебску мусіць будзе стаяць пусты ці магчыма прыдумаюць новае, «інавацыйнае» рашэнне?

**Л. Антонаў**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

СУД

## ПРИГОВОР В ОТНОШЕНИИ ДВУХ РУКОВОДИТЕЛЕЙ

**Прокуратура Городокского района в выездном судебном заседании — в помещении Городокского районного исполнительного комитета в присутствии представителей сельскохозяйственных предприятий, поддержала государственное обвинение по уголовному делу в отношении 2 должностных лиц, которым инкриминировано превышение власти и служебных полномочий, совершенные из корыстной и иной личной заинтересованности.**

Как установлено в ходе судебного следствия, 06.12.2022 руководитель одного из сельскохозяйственных предприятий района, достоверно зная о гибели на молочно-товарной ферме предприятия 7 голов КРС от поражения электрическим током, дала незаконное указание подчиненной ей по службе исполняющей обязанности главного ветеринарного врача АПК о составлении и выдаче ею официальных документов – акта на экстренный убой животных, подтверждающего направление в адрес мясокомбината указанных 7 голов КРС с диагнозами, совместимыми с жизнью скота, а также товарно-транспортной накладной. В то же время главный ветеринарный врач района дал незаконное указание подчиненному ему по службе ветеринарному врачу-эпизоотологу о составлении и выдаче официальных документов – ветеринарного свидетельства, оформляемого на живой скот, подтверждающих направление на экстренный убой в адрес мясокомбината этих же 7 голов КРС, а также о согласовании путем подписания акта на экстренный убой, оформленного АПК и проставлении на нем печати государственного лечебно-профилактического учреждения, достоверно зная, что данные животные были смертельно травмированы электрическим током.

Своими действиями вышеуказанные должностные лица организовали составление заведомо подложных официальных документов, являющихся основанием для сдачи на мясокомбинат 7 голов КРС, мясо которых непригодно для использования на пищевые цели, что повлекло причинение предприятию ущерба в крупном размере свыше 11 тысяч рублей, а также существенного вреда правам и законным интересам граждан, выразившегося в употреблении гражданами в пищу мясной продукции, направленной в торговую сеть для реализации покупателям.

Таким образом, в результате противоправных действий обвиняемых уменьшены показатели падежа КРС в количестве 7 голов. Мотив преступления – избежать привлечения к материальной и дисциплинарной ответственности, скрыть неудовлетворительную организацию работы по сохранности поголовья скота, исказить реальное положение дел в хозяйстве, создав видимость эффективной работы подразделения в данном направлении деятельности, достоверно зная о произошедшем падеже скота.

С учётом представленных государственным обвинителем доказательств суд Городокского района постановил обвинительный приговор и на основании ч.2 ст.426 УК Республики Беларусь назначил каждому обвиняемому наказание в виде лишения свободы сроком на 2 года 6 месяцев с отбыванием наказания в исправительной колонии в условиях общего режима со штрафом в размере 300 базовых величин с лишением права занимать должности, связанные с выполнением организационно-распорядительных и административно-хозяйственных обязанностей сроком на 5 лет.

Приговор суда в законную силу не вступил, может быть обжалован и опротестован в апелляционном порядке.

**Старший помощник прокурора, юрист 1 класса Н. А. Матлох.**
**Паводле gorodok.vitebsk-region.gov.by**

СПАДЧЫНА

# ТЫДЗЕНЬ ЯКУБА КОЛАСА

**У Гарадоцкай райбібліятэцы праходзіць тыдзень Якуба Коласа «Колас: вядомы і невядомы».**



3 лістапада спаўняецца 140 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. З гэтай нагоды па Беларусі праходзяць розныя мерапрыемствы прысвечаныя беларускаму пясняру. Наша райбібліятэка таксама ўдзельнічае ў святочных мерапрыемствах.

Напрыканцы кастрычніка ў чытальную залу бібліятэкі былі запрошаны вучні 9А класа СШ № 1 на літаратурную сустрэчу «Колас: вядомы і невядомы».

Цікавыя звесткі, эпізоды і ўспаміны пра Якуба Коласа, якія выразна раскрываюць рысы яго характару як чалавека і як пісьменніка, былі паведамлены вучням.

Школьнікі таксама даведаліся пра захапленні літаратара. На сустрэчы прагучалі ўрыўкі з паэм «Новая зямля», «Сымон-музыка», рамана «На ростанях».

На працягу тыдня гэта мерапрыемства плануюць наведаць вучні старэйшых класаў сярэдніх навучальных устаноў горада.

**Паводле сайта: haradoklib.by**

ЭКСПЕРТЫЗА

# ДАСЛЕДАВАЛІ КАНФІСКАВАНУЮ ЗБРОЮ

**Эксперты-балісты ў Віцебску даследавалі арсенал канфіскаванай у жыхара Гарадоцкага раёна зброі. Яно прыдатнае для стральбы, як і патроны. Пра гэта на сайце ўпраўлення паведаміла афіцыйны прадстаўнік упраўлення ДКСЭ па Віцебскай вобласці Таццяна Серабракова.**

Сярод канфіскаванага ў мужчыны ў Гарадоцкім раёне — 8 адзінак гладкаствольнай зброі, боепрыпасы да яе, а таксама прыстасаванні для самаробнага рыштунку патронаў і два банкі з падобным на порах рэчывам. Упраўленне ДКСЭ па вобласці прызначыла шэраг судовых балістычных экспертыз. Сам гаспадар забароненага арсенала растлумачыў, што стрэльбы і патроны дасталіся яму ад нябожчыка дзеда. Мужчына захоўваў усё гэта дома, не маючы адпаведнага дазволу, і разумеў, што парушае закон.

Балістычная экспертыза паказала, што ўся зброя была выраблена на заводзе.

Яно і патроны да яго прыдатныя для стральбы. Самаробным спосабам былі падрыхтаваны 18 з 40 патронаў.

Раней у жыхара Гарадоцкага раёна быў дазвол на захоўванне і нашэнне паляўнічай гладкаствольнай агнястрэльнай зброі. Мужчыну пазбавілі дакумента за правіну. Кампетэнтныя органы дадуць яго дзеянням прававую адзнаку.

**Л. Антонаў**

**Па інфармацыі: sudexpert.gov.by**

АРЭНДА

# ПРАЎДЗІВЫ БЕЛАРУСКАМОЎНЫ ВАРЫЯНТ РУБРЫКІ?

**У Гарадоцкім раёне каля тузіны памяшканняў прапануюцца ў арэнду. На сайце Гарадоцкага райвыканкама размяшчаецца інфармацыя аб памяшканнях у Гарадку і на раёне, якія магчыма атрымаць у арэнду. Актуальнасць інфармацыі пра арэнду варта ўдакладняць па кантактных тэлефонах. Пры раўназначнасці дзвюх дзяржаўных моў інфармацыя пра арэнду не праўдзівая на расійскай мове. Тлумачым чаму.**

Па стану на 30 кастрычніка на сайце Гарадоцкага райвыканкаму ў рубрыцы «Арэнда» https://gorodok.vitebsk-region.gov.by/ru/arenda-ru рускамоўнага варыянта маецца 16 прапаноў арэнды ад 4 ўласнікаў. На беларускім варыянце сайта ўжо толькі 11 прапаноў ад трох уласнікаў тут: https://gorodok.vitebsk-region.gov.by/by/arenda-by

На беларускай версіі сайта арэндупрапануеВіцебскіфіліял РУП «Белпошта» прапануе для здачы ў арэнду наступныя плошчы памяшканняў: 4 нежылыя памяшканні (32,5 кв.м., 64,3 кв.м., 33,8 кв.м. і 67,3 кв.м.), размешчаных па адрасе: Гарадоцкі р-н, г.п . Езярышча, вул. Ленінская, 58 (на 2-м паверсе); 4 нежылыя памяшканні (29,03 кв.м., 13,62 кв. м., 4,8 кв.м. і 2,97 кв.м.) у будынку аддзялення сувязі, размешчанага па адрасе: Гарадоцкі р-н , аг. Мяжа. Каэфіцыент, які ўсталёўваецца ў залежнасці ад попыту, тэхнічнага стану і камерцыйнай выгады — 3,0. Памяшканні ў здавальняючым стане, маецца пячное ацяпленне.

Па ўсіх пытаннях, якія цікавяць, звяртацца па тэлефоне: (8-0212) 61-66-90.

УА «Гарадоцкі дзяржаўны аграрна-тэхнічны каледж» здае ў арэнду два памяшкання, а не 6, як на расійскай версіі, дзе прапануецца па ўсіх пытаннях звяртацца па тэлефоне: (802139) 5-87-97.

Таксама інспекцыя МПЗ па Чыгуначным раёне г. Віцебска прапануе для здачы ў арэнду нежылое памяшканне, размешчанае па адрасе: Віцебская вобласць, г.Гарадок, вул. Валадарскага, 10, плошчай 52, 06 кв. метраў. Па ўсіх пытаннях, якія ўзнікаюць, звяртацца па тэлефоне (8-0212) 67-90-77.

Тут няма інфармацыі, што цэнтральная аптэка № 6 Гарадоцкага раёна здае ў арэнду сутарэннае памяшканне плошчай 126,1 кв. метраў па адрасе: г. Гарадок, вул. Савецкая,31.

Бо гэта памяшканне ўжо выкарытоўваецца для гандлю таварамі сэканд-хэнд.

Таму думаецца, што версія арэнды ў Гарадоцкім раёне на роднай мове больш праўдзіва. Ці так?

І яшчэ. У англамоўнай версіі сайта ніякай інфармацыі пра арэнду няма. Ды і інфармацыя пра прамысловае і сельскагаспадарчае развіццё Гарадоцкага раёна вельмі фрагментарна і састарэла гадоў на дзесятак. Без каментароў...

**Л. Антонаў**

ПЕРАСЛЕД

# ХАЦЕЛА ПЕРАДАЦЬ КАЛЕКТЫЎНЫ ЗВАРОТ

**У Полацку ў сераду 26 кастрычніка была затрымана ІП Таццяна Шастак, якая збіралась перадаць старшыні Наваполацкага гарвыканкаму Дзмітрыю Дзямідаву петыцыю ад мясцовых бізнісоўцаў. У звароце прадпрымальнікі прасілі ўлады растлумачыць, як ім працаваць у новых умовах з цэнаўтварэннем. Пра гэта піша «Новы Час» так.**

Таццяну затрымалі а сёмай гадзіне раніцы, калі яна выходзіла з дома ў Полацку, і завезлі ў мясцовы РАУС. Пасля складання пратакола ў яе кватэры быў праведзеныператрус, пад час якога міліцыянты канфіскавалі ўсе дакументы з калектыўным зваротам прадпрымальнікаў да Дзямідава і асабісты тэлефон.

У гэты ж дзень судом Полацкага раёна арыштаваў Шастак на 30 сутак. Сябры і сваякі не змаглі патрапіць на судовае паседжанне, бо суд прайшоў раптоўна ў паскораным рэжыме.

Пакуль невядома, па якім артыкуле арыштавалі прадпрымальніцу. У судзе яе мужу адмовіліся паведаміць, у чым абвінавацілі Таццяну.

Сваякі 29 кастрычніка спрабавалі зрабіць перадачу Таццяне ў ІЧУ Віцебскага аблвыканкама, дзе прадпрымальніца адбывае арышт. Аднак, кіраўнік ізалятара без тлумачэнняў адмовіліся прымаць прадукты харчавання, але дазволіў перадаць зняволенай толькі асабістыя гігіенічныя прылады.

Праваабаронца высветлілі, што прадпрымальніцу арыштавалі за аватарку ў сацыяльнай сетцы. Аватарка ў спісе "экстрэмісцкай" інфапрадукцыі.

**"Новы Час"**

НАВУКА

# ДЫСЕРТАЦЫЯ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

**У ДУ «Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М.М. Аляксандрава» адбылася адметная навуковая падзея: паспяховая абарона дысертацыі на атрыманне ступені кандыдата медыцынскіх навук Юдзіным Антонам Аляксандравічам «Лячэнне пацыентаў, хворых на рак нізкаампулярнага аддзела кутніцы, з ужываннем неаад'ювантнай хіміяпрамянёвай тэрапіі» — паведамляе iml.basnet.by**

Адметнасць гэтай падзеі заключаецца не толькі ў высокай навуковай і практычнай вартасці даследавання, але і ў тым, што праца выканана на беларускай мове. Важна адзначыць, што пасяджэнне вучонага савета па абароне (вядзенне пасяджэння старшынёй, выступленне вучонага сакратара савета, навуковага кіраўніка, апанентаў) прайшло на беларускай мове.

У медыцынскай сферы беларускамоўныя дысертацыйныя даследаванні — рэдкая з'ява. Вядома, напрыклад, што ў 2016 годзе Андрэем Вітушкам была абаронена кандыдацкая дысертацыя «Прагнастычныя фактары і прафілактыка ўнутрашлуначкавых кравазліццяў у неданошаных з масай цела менш за 1500 грам пры нараджэнні» (РНПЦ «Маці і дзіця»). Паспяховае выкарыстанне нацыянальнай мовы ў згаданых навуковых працах — яскравае пацвярджэнне таго, што беларуская мова з'яўляецца сучаснай мовай, здольнай ужывацца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Калі мець на ўвазе, што моўная кампетэнцыя — адзін з важных складнікаў жыццядзейнасці грамадства наогул, а сфера медыцыны і аховы здароўя мае непасрэднае дачыненне да бяспекі жыцця грамадзян, то менавіта на спецыялістаў-медыкаў ускладаецца вялікая адказнасць не толькі за аказанне кваліфікаванай медыцынскай дапамогі, але і за рэальнае ажыццяўленне канстытуцыйнага права грамадзяніна атрымаць поўную інфармацыю ў той ці іншай медыцынскай установе на любой з дзяржаўных моў.

Непасрэдная сувязь моўнай кампетэнцыі спецыялістаў сферы аховы здароўя з бяспекай жыцця чалавека забяспечваецца ў значнай ступені наяўнасцю грунтоўнай тэрміналагічнай базы. Тэрмінасістэма, выкарыстаная А.А. Юдзіным у яго даследаванні, дазволіла дакладна і перakanальна прадставіць разважанні па складанай навуковай праблеме і ў поўным аб'ёме будзе ўключана ў тэрміналагічную базу сучаснай беларускай мовы і ў базу новага «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы».

**budzma.me**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ГІСТОРЫЯ ПРА МАНАПАЛІСТА, ЯКОМУ НІХТО НЕ ПЕРАШКАДЖАЕ

**Дух захоплівае ад перспектыў, якія адкрываюцца перад айчынным лёгкай прамысловасцю, і спароджаныя яны «спецыяльнай ваеннай аперацыяй Расіі ва Украіне».**



Каму «спецаперацыя» — акаму і родная маці. 27 кастрычніка ў Палацы Незалежнасці старшыні канцэрна «Беллегпрам» Тацццяне Лугіной былі прадстаўлены разгорнутыя перспектывы.

Цытую паводле прэс-рэлізу сайта president.gov.by: «...з расійскага рынку ў цяперашніх абставінах сышлі многія замежныя гульцы. Скараціўся імпарт і ў Беларусі. Дык гэта шанец заняць вось гэтую нішу. На нашым асноўным рынку — расійскім. І на ўнутраным рынку. Таму калі вы за гэты час, які іншыя галіны, дапусцім, як сельская гаспадарка, не паднімецеся, грош вам цана. Цяпер ужо вам ніхто не перашкаджае. І вы наогул манапалісты, у вас няма сапраўднай канкурэнцыі» (вылучана — С. Н.).

Аднак адсутнасцю канкурэнцыі перавагі галіны, што падведамная спадарыні Лунгіной, не абмежаваліся:

«Крызіс — гэта цяжка, складана, але гэта шанец, гэта магчымасць. І перш за ўсё для лёгкай прамысловасці. У нас жа ёсць усё. Тканіны ёсць, швейныя машыны ёсць, кваліфікаваны персанал — і тэхнолагі, і кіраўнікі, і швачкі, і іншыя, хто вяжа і яшчэ нешта робіць, — у нас усё ёсць. Таму ўсё залежыць ад нас, як мы разгорнемся».

Бяда, як вядома, мае схільнасць прыходзіць з таго боку, адкуль яе менш за ўсё чакаеш. Аднак гэтакай жа ўласцівасцю валодае і шчасце. Што мы мелі да «спецаперацыі»? «Сюды (у Беларусь. — С. Н.) вазілі ад рыззя — сэканд-хэнд да брэндаў. І ў нас або анучы куплялі, або брэнды. < ... > Гэта бяда, калі нашы людзі, хай іх менш стала, але бягуць у краму і вочы ў іх гараць, калі бачаць нейкую імпартную прадукцыю».

Аднак час спажыўцоў, у якіх гарэлі вочы, час выбару, калі кожны знаходзіў сабе тавар на свой густ і кашалёк, назаўжды застаўся ў мінулым. Цяпер ужо ўнутраны рынак, «які ў свой час быў аддадзены незразумела каму», пераходзіць прадпрыемствам леглрама, якіх больш за 2 тысячы.

Дзякуй «спецаперацыі», калі б не яна, то думка, што «мы можам пашыць сваю прадукцыю», і ў галаву б нікому не прыйшла. Дзякуй, вялікі дзякуй «спецаперацыі», якая зрабіла казку ІМПАРТАЗАМЯШЧЭННЯ быллю.

**Насенне дало парасткі**

«У нас няма прадпрыемстваў, як мы іх часта называем, без ведамаснай падпарадкаванасці. Усё ў нас у ведамстве». І кожнаму прадпрыемству зверху спушчаныя даручэнні. У гэтых даручэннях, нібы ў барадзе Чарнамора з казкі, і палягае сіла беларускай мадэлі. Адно толькі бянтэжыць: «у нас ёсць звычка такая — валакіціць гэтыя даручэнні, пакуль прэзідэнт у другі ці ў трэці раз не звернецца ў плане кантролю».

Пра тое, да якіх наступства прыводзіць адсутнасць сыходнага патоку даручэнняў, старшы выкладчык і навуковы супрацоўнік Ракфелераўскага цэнтра Дортмуцкага каледжа Чарльз Уилан тлумачыць на прыкладзе развіцця лёгкай прамысловасці ў Бангладэш у сваёй кнізе «Голая эканоміка. Выкрыццё панурай навукі».

Развіццё яе ў Бангладэш пачалося з увядзення ЗША і Еўропай квотаў на імпарт паўднёвакарэйскага тэкстылю. У адказ карпарацыя Daewoo перадыслакавала шэраг сваіх прадпрыемстваў у Бангладэш. Папярэдне яна інвеставала ў чалавечы капітал — накіравала 130 бангладэшскіх работнікаў у Паўднёвую Карэю для прафесійнай падрыхтоўкі.

«Пасля Daewoo разарвала адносіны з партнёрам у Бангладэш, але насенне для экспартнай галіны, якая бурна развівалася, на той час ужо дало парасткі. Са 130 работнікаў, навучаных Daewoo, 115 на працягу 1980-х гадоў сышлі з прадпрыемства і заснавалі ўласныя фірмы па экспарце адзення».

Чалавечы капітал, у адрозненне ад абсталявання або фінансавых актываў, немагчыма забраць. Варта было бангладэшскім работнікам навучыцца шыць кашулі — і ўжо ніхто не здолеў іх прымусіць забыцца, як гэта робіцца. І яны не забыліся, стварыўшы экспартаарыентаваную галіну коштам 3 мільярды долараў.

Танны экспарт на пачатковай стадыі спрыяў і росквіту «азіяцкіх тыграў»: Сінгапура, Ганконга, Тайваня, Паўднёвай Карэі, а яшчэ раней — Японіі. Далей пайшло само. У 2021 годзе, паводле Сусветнага банка, у спісе краін па ВУП (па парытэце пакупніцкай здольнасці) на душу насельніцтва яны размясціліся на 2-м, 13-м, 17-м, 32-м і 39-м месцах адпаведна. Для параўнання, «наша Расія» заняла 55-е, а Беларусь — 75-е месца.

**З пункту гледжання тых, хто ва ўладзе**

У чарговы раз нагадаю азбукавую побытавую ісціну: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што па кірунку іміграцыйных патокаў можна беспамылкова вызначаць перспектывы развіцця нацыянальных эканамічных мадэляў.

Свежы прыклад: у кастрычніку Цэнтральны банк Арменіі палепшыў прагноз па росце ВУП краіны ў 2022 годзе з 1,6% да 13%. Старшыня Цэнтральнага банка Марцін Галсцян патлумачыў гэта прыездам у краіну таленавітых і добра адукаваных расіян, пераважна работнікаў IT-сектара. У Грузіі прагназуюць рост эканомікі ў гэтым годзе на 10%, а ў Беларусі, верным саюзніку Расіі, за дзевяць месяцаў 2022-га ВУП скараціўся на 4,7%.

Звестак па Казахстану і Кыргызстану я не маю, аднак не абавязкова быць Настрадамусам, каб прадказаць станоўчы ўплыў ад масавай іміграцыі маладых і адукаваных расіян на эканомікі краін, якія іх прытулілі.

Дакладная статыстыка зыходу адсутнічае, але ў тым, што лічыць іх варта сотнямі тысяч, ніхто не сумняваецца.

Людзі — рухавікі эканомікі. «На самай справе, яны як бы адказныя за эканамічны рост, — тлумачыць навуковы кіраўнік Расійскай эканамічны школы Рубен Енікалопаў. — Заўсёды недаацэньваецца роля лідараў. Дастаткова адчапіць лакаматыў — і ўсе сорак вагонаў спыняцца і будуць стаяць. Таму не трэба казаць, што лакаматыў — гэта ўсяго толькі адзін вагончык з сарака, без яго нічога не паедзе. Людзі з высокім чалавечым капіталам і высокатэхналагічныя індустрыі — гэта такія лакаматывы, іх уплыў абсалютна непрапарцыйны іх колькасці».

Няўжо ў Крамлі і Палацы Незалежнасці пра гэта не здагадваюцца? Зразумела, такія веды таямніцай ні для каго не з'яўляюцца. Праблема ў тым, што высокі чалавечы капітал несумяшчальны з прынцыпам нязменнасці ўлады. Вось і даводзіцца ўладзе з двух варыянтаў знаходзіць больш прывабны для сябе, так бы мовіць, абіраць меншае ліха. Меншае — з пункту гледжання тых, хто ва ўладзе.

**Сяргей Нікалюк**
**«Новы Час»**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# КАК ИП ОКАЗАЛИСЬ МЕЖДУ МОЛОТОМ И НАКОВАЛЬНЕЙ

**Чего ждать от очередного намерения властей навести порядок на рынке. Экономист Владимир Ковалкин — о том, что властям абсолютно наплевать, будет у белорусов выбор из двадцати видов джинсов или только два вида брюк от «Коминтерна» — серые и черные.**

После доклада премьер-министра о состоянии дел в экономике Александр Лукашенко заявил, что «в целом экономика по отдельным направлениям показывает хорошие результаты». Раздал поручения: как строить тактику и стратегию, чтобы выйти как минимум на уровень прошлого года, как платить госдолг (в рублях) и закончить уборку кукурузы, анонсировал скорую встречу с Путиным, напомнил о регулировании цен и отдельно затронул индивидуальных предпринимателей.

В адрес последних прозвучало: мол, «настало время работать прозрачно и не мешать легкой промышленности работать». А после 7 ноября чиновники различных уровней должны будут вновь собраться у правителя и отчитаться о ситуации на рынке.

— Мне кажется, ИПшникам не повезло дважды — в данном конкретном случае пересеклось два тренда, — отметил в комментарии Филину экономист, руководитель проекта «Кошт урада» Владимир Ковалкин.

— Один тренд — популистский, антиинфляционный: скорее всего, Лукашенко положили на стол какие-то очередные исследования общественного мнения, которые показали, что «народец» не очень доволен обеднением, поскольку реальные доходы (рассчитываемые с поправкой на инфляцию) падают. И это вызвало желание запустить в очередной раз пиар-кампанию «хороший царь и плохие бояре», в данном случае — плохие купцы, которым можно надавать по шапке: что ж вы народ обижаете своими ценами.

Это один тренд, ситуативный. А второй — тренд на замену всего частного государственным. Пускай плохим, кривым, дефицитным, но государственным. Если внимательно посмотреть на этот тренд, старт ему был дан где-то в мае 2021 года, когда случилась посадка самолета Ryanair с Протасевичем на борту, разгром T*T. BY — решения, вероятно, были приняты раньше, но проявились они именно с этими громкими событиями.

Эксперт напоминает: зачистку власти начали с очевидных «врагов народа»: негосударственных медиа, некоммерческих организаций — сайты заблокировали, организации принудительно ликвидировали, дальше пошли по клиникам, кафе и так далее.

**— Сейчас дошли и до ИПшников.**

Логика в том, что любой частник, будь то коммерческая организация (медклиника, торговое предприятие, общепит) или некоммерческая (любой фонд, экологическое объединение, инициатива активистов), — слишком уж независим от государства. А это дико раздражает Лукашенко после 2020 года, он боится повторов. Поэтому тренд — зачистить полностью поле, а на пустошь насадить государственное.

Но в конкурентной борьбе государственное проигрывает, поскольку цены высокие, а сервис или товары, говоря откровенно, г*но. Это очень хорошо видно на примере медиа: кто будет читать «Советскую Белоруссию» или БелТА, если их не заставлять? Собственно, никто, особенно, если есть выбор в виде других медиа, которые представляют более качественный продукт.

То же самое происходит и с некоммерческими организации — вместо нормальных, независимых

*(працяг на стар. №4)*

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

(пачатак на стар. №3)

начинают появляться провластные, оттуда повылазили все «круглые демократы» и им подобные. А более или менее общественная инициатива — банится, ликвидируется как организация, в особых случаях признается «экстремистской» либо «террористической», чтобы поставить на ее место что-то прогосударственное, а-ля БРСМ.

Происходящее с ИП также абсолютно укладывается в этот тренд. От ИПшников нужно избавиться, поскольку они больно независимы и постоянно чего-то там хотят, и к тому же, если мы говорим про рынки, то их товары — одежду, бытовые товары, различную мелочевку — надо заменить «Беллегпромом», подконтрольным, готовым кланяться и смотреть в рот, и делать, что скажут.

**— Но ведь очевидно, что раз за 20 лет «Беллегпром» не смог заменить даже секонд-хенды, то с чего бы это должно получиться сейчас? Закроют рынки — останутся секонды...**

— Потому и не смогли, что раньше был выбор: секонд-хенды, ИПшники. А когда его не будет, останется, условно говоря, только ЦУМ и больше ничего — что останется делать, пойдут все в ЦУМ.

Ведь задача — установить госмонополию на все, от информации и общественной деятельности до торговли. Потому что только госмонополия подконтрольна, и через нее можно влиять на протестные настроения.

**— Как мы помним, на ИП власти «наезжали» не раз: то им запрещали нанимать на работу больше трех человек, то вообще всех, кроме близких родственников, — а потом эти решения откатывали назад. В теперешних условиях может такое быть или задача «зачистки» первостепенна, а что там будет с рабочими местами, налогами и так далее — не столь важно?**

— Власти ведут войну, а на войне все средства хороши. Те решения, которые принимались в прошлые годы, принимались в других условиях, с точки зрения Лукашенко и его окружения. Но с августа 2020 года началась непрекращающаяся война, у них мобилизационная экономика, и можно делать все, что угодно.

В рамках этой логики им абсолютно наплевать, будет у белорусов выбор из двадцати видов джинсов или только два вида брюк от «Коминтерна» — серые и черные.

Не с голой задницей — и хорошо, не замерзли — тоже замечательно, есть возможность вырастить или купить каких-то овощей — так и вообще прекрасно, жить можно.

Зачем кого-то слушать, заботиться о чьем-то комфорте в условиях войны? Такие понятия, как «комфорт», «развитие экономики» стали второстепенными, главное — это контроль всего и вся. А значит, уничтожаем все частное и насаждаем государственное, какое есть.

К слову, Владимир Ковалкин и **сам запустил процедуру ликвидации ИП:**

— Всем ИПшникам в нынешних условиях не завидую и советую делать то же самое: пока есть возможность, выходить из бизнеса, смотреть, чем можно заняться. Если есть возможность эмигрировать — то эмигрировать. Потому что внутри страны с экономикой будет худо, скорее, будет что-то похожее на советское фарцевание 1980-х: модные джинсы-варенки в количестве пары штук купил, продал «в серую», не заплатил налоги, и с этого как-то можешь жить.

**«Филин»**
**Ирина Морозова**

ПАЗІЦЫЯ

# УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ: «Я НЕ ВЕРУ, ШТО БЕЛАРУСІ НЕ СТАНЕ»

**«Дзяды. Сёння яны для мяне не толькі народная традыцыя, дзень памяці продкаў. Яны — тое сапраўднае, што яшчэ застаецца ад Беларусі, абрысы якой, як сказаў мне днямі адзін з даўніх маіх сяброў, усё болей ілюзорныя», — піша ў Фэйсбуку Уладзімір Някляеў.**

Я не веру, што Беларусі не стане. Бо ведаю, што яна будзе. Калі нават згубіць, як ужо губляла, межы, ці страціць прыкметы дзяржаўнасці, дык будзе сама ў сабе. І зноў знойдзе свае межы, як змяя новую скуру.

Генітычна яна — вельмі моцнае ўтварэнне. Менавіта таму як яе ні знішчаюць — знішчыць не могуць.

Іншая рэч, што невыносна глядзець, як завіхаюцца, каб знішчыць. І калі б толькі чужыя. Свае, якія праз тое, што свае, чужэйшыя за чужых.

Тое, што цяпер адбываецца з намі, яшчэ нядаўна немагчыма было ўявіць. Яшчэ нядаўна, калі сыходзілі мае старэйшыя сябры, Караткевіч, Стральцоў, Быкаў, Барадулін, Бураўкін, — як мне было шкада! «Як заўчасна, — адчайна думаў я над іх магіламі, — як заўчасна!» А цяпер думаю, што ў час... І нават зайздрошчу ім, што яны не бачаць...

Бо невыносна.

Але трэба трываць. А каб трываць — помніць. Не забываць пра тое, што яны былі, аралі, сеялі, пісалі — і ты ім абавязаны. І проста мусіш рабіць тое, што ўмееш рабіць найлепей. Бо як у даўніне, гэтак і ў будучыні, толькі ў найлепшым яна невынішчальная — наша Беларусь

**Мне раптам стаў нямілы родны кут.**

*І я б забыў, што нарадзіўся тут,*
*Каб даў мне Бог забыць,*
*каб разлюбіць даў сілы*
*Пагорак той, дзе продкавы магілы,*
*Дзе хутка ўжо і мне на Божы суд.*
*Я ведаю, што я на тым судзе*
*Скажу. Што я нікому і нідзе*
*Не здрадзіў, што ў крыві*
*не вінаваты...*
*А Бог спытае: «Не прадаў ты брата?*
*Сястру сваю не кінуў ты ў бядзе?»*
*Я б адказаў, што не!..*
*Калі б Ён сілы даў*
*Змагчы той жах, што нада мной*
*паўстаў,*
*Нянавісць, што, як пыл,*
*любоў з зямлі змятае!..*
*Ён ведае, што я не прадаваў.*
*Я ведаю, чаму Ён так спытае.*

**budzma.me**

МЕРКАВАННЕ

# ПОЧЕМУ УКРАИНСКИЙ ПРЕЗИДЕНТ КРУТОЙ, И КАК ЭТО ОБЪЯСНИТЬ ОТРАВЛЕННЫМ РОССИЙСКОЙ ПРОПАГАНДОЙ

**Известный продюсер Александр Роднянский — о том, почему Зеленский — крутой президент: «Все эти месяцы Зеленский вместе с украинцами — на передовой, в больницах и госпиталях. А где Путин, вы знаете».**



— Как же меня удивляет, когда россияне пишут с ненавистью о Владимире Зеленском. Удивляет потому, что более обаятельного, умного и сильного человека встретить в жизни трудно, — отмечает Александр Роднянский.

Ну а во время войны своими ежедневными обращениями к украинцам, международным правительствам, парламентам, общественным, научным, деловым и культурным сообществам, президент Украины вызвал мощнейшую волну поддержки у себя дома и беспрецедентное уважение во всем мире.

Я понимаю, что реакция многих россиян вызвана телевидением. Мне не надо объяснять, как оно работает — у меня есть ближайшие родственники, не отрывающиеся от России 24... И я знаю, как тяжело с ними говорить. Тут вам и «наркоман», и «клоун», и «пешка Запада», и «сбежал из Украины»...

Спорить с отравленными пропагандой близкими очень сложно. Даже если вы любите друг друга. Даже если вы хорошо понимаете технологии пропаганды и коротко знакомы с президентом. Близкие не слышат...

А знаком я с Владимиром Александровичем с далёкого 1998 года, когда капитаном своей команды КВН он выигрывал Украинскую лигу, выходившую в эфир на возглавляемом мною канале «1+1». Потом мы работали вместе, мне удалось помочь Зеленскому и братьям Шефирам запустить их компанию, ставшую знаменитым «Кварталом 95».

Видел я его и во время войны. В Киеве. Такого же умного, быстрого и обаятельного. Но как-то разом постаревшего, с тяжелым грузом ответственности на плечах.

Я написал эти несколько слов для того, чтобы объяснить, почему и где снята эта фотография.

Президент перед своим Офисом на улице Банковой. Рядом с ним лежит сбитый иранский дрон «Шахед 136», поставку которых в Россию категорически отрицает Иран. Именно эти дроны используют российские войска для обстрела объектов гражданской инфраструктуры. Удары по которым обрекают обычных жителей — детей, женщин и стариков — на жизнь без воды, тепла, света и канализации. Во время зимы.

Поэтому улицы Киева и всей Украины в темноте — экономия энергии и маскировка.

Поэтому президент страны рядом со сбитым дроном. Доказательством жестоких атак.

Все эти месяцы Владимир Зеленский вместе с украинцами — в столице, в других городах, на передовой, в больницах и госпиталях.

А где Путин, вы знаете.

**gazetaby.info**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.11.2022 у 15.25**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.